www.nv-online.info

№ 49 (3994)

26 чэрвеня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб* **КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Сёння і заўтра яшчэ можна падпісацца на "Народную Волю" на ліпень і любы тэрмін другога паўгоддзя**

*Сапраўды, як можна застацца без "Народнай Волі" ў той час, калі ў краіне наспяваюць лёсавызначальныя падзеі? Хто ж лепш данясе да Вас ПРАЎДУ, як не "Народная Воля"? Таму будзем разам і надалей. Вас чакаюць у кожным паштовым аддзяленні і ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку".*



**Вы – з "Народнай Воляй", "Народная Воля" – з Вамі!**

ЭШЕЛОНЫ ВЛАСТИ

## Какие «семейные обстоятельства» вынудили уйти с работы Александра Межуева?

*Госсекретарь Совета безопасности сам попросил освободить его от должности – в связи со сложными семейными обстоятельствами.*



Других официальных подробностей не сообщается. Возможно, поэтому в интернете сразу стали искать какие-то подводные камни ухода Межуева. Так, некоторые эксперты высказали мнение, что на отставку госсекретаря Совбеза могли повлиять и политические причины, в том числе связанные с предстоящими президентскими выборами.

Сам Александр Вениаминович и его близкие от подробных комментариев пока воздерживаются.

*– Его нет, и сейчас с ним никак нельзя связаться*, – ответила вчера утром «Народной Воле» супруга генерала Лилия Олеговна. – *Он поехал решать свои вопросы.*

*– Его уход с должности спровоцировал массу слухов. Одни предполагают, что возникли проблемы со здоровьем близких людей, а другие говорят о якобы серьезных, чуть ли не криминальных проблемах, возникших у одного из трех ваших сыновей...*

*– Нет, ничего подобного. Но я не могу вам вместо него что-то сказать...*

Кстати, со своей супругой Александр Межуев вместе уже почти 40 лет. Они поженились совсем молодыми.

*«И все это время, где бы я ни служил, жена была вместе со мной, она мой добрый советчик и надежный друг, готовый всегда прийти на помощь*, – говорил два года назад в одном из своих интервью Межуев. – *Возможно, без нее я не смог бы достичь таких высот в службе. У нас в семье полное взаимопонимание, и, по правде говоря, я ни разу в жизни не пожалел о том, что столь рано связал себя узами брака».*

Межуев всегда был подчеркнуто уважителен почти со всеми своими собеседниками. Он не любит рубить с плеча, самой плохой человеческой чертой считает зависть. *«Для меня самое важное, не какие звезды будут на погонах, а какую память я оставлю о себе»,* – говорил он. На различных банкетно-фуршетных мероприятиях второй тост всегда произносил за здоровье А.Лукашенко.

**Вера ВИР.**

### Из личного дела

Александр Межуев был назначен госсекретарем Совбеза Беларуси в декабре 2013 года. До этого занимал пост председателя комиссии по национальной безопасности Палаты представителей Национального собрания Беларуси. Депутатом Межуев был избран по 52-му избирательному округу в Гродно.

УЧОРА

## Прызначаны...

**Каўхута Андрэй Марленавіч** – міністрам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя;

**Ахрамовіч Генадзь Уладзіміравіч** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Азербайджанскай Рэспубліцы;

**Назарук Ігар Васільевіч** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Арменія;

**Аляксандраў Аляксандр Мікалаевіч** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Куба;

**Курдзюкоў Валерый Мікалаевіч** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Чэшскай Рэспубліцы;

**Турчын Аляксандр Генрыхавіч** – памочнікам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь – галоўным інспектарам па Гомельскай вобласці;

**Раўнейка Сяргей Васільевіч** – памочнікам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь – галоўным інспектарам па Гродзенскай вобласці.

У СУСЕДЗЯЎ

## Новы маршалак польскага Сейма



У чацвер у Польшчы абралі новага маршалка Сейма. Пасаду маршалка заняла былы прэс-сакратар урадаў Туска і Копач, дэпутат ад Грамадзянскай платформы Малгажата Кідава-Блоньска.

Ёй супрацьстаяў віцэ-спікер Сейма, прадстаўнік партыі "Саюз дэмакратычных левых сіл" Ежы Вендэрліх, які пасля адстаўкі Сікорскага і выконваў абавязкі спікера.

СЁННЯ

## Бясплатна!

Сёння, 26 чэрвеня, беларускія адвакаты правядуць бясплатныя кансультацыі для маламаёмных. Акцыя праходзіць па ўсёй краіне і прымеркавана да Дня ўтварэння адвакатуры.

*«У асноўным людзей цікавяць пытанні, звязаныя з вылічэннем стажу пры выхадзе на пенсію, працаўладкаваннем, пытанні сацыяльнай падтрымкі, спадчыны. У цэлым падчас правядзення дадзеных кансультацый адвакаты тлумачаць дзеючае заканадаўства ў галіне працоўнага, грамадзянскага, сямейнага і жыллёвага права»*, – растлумачылі ў Рэспубліканскай калегіі адвакатаў.

Падобныя акцыі па рашэнні РКА праводзяцца ў краіне рэгулярна. У прыватнасці, прыём маламаёмных грамадзян на бясплатнай аснове адвакаты праводзілі 15 сакавіка – у Дзень Канстытуцыі Беларусі, 4 снежня – у Дзень юрыста і 1 кастрычніка – з нагоды Дня пажылых людзей.

ПАЛІТКУХНЯ

## Без гальштукаў

Нефармальны саміт міністраў замежных спраў краін "Усходняга партнёрства" і прадстаўнікоў Еўрасаюза пройдзе ў Мінску 29 чэрвеня.

Гэта будзе нефармальная сустрэча ў фармаце "без гальштукаў", якую ініцыяваў яшчэ еўракамісар Стэфан Фюле і якая праходзіць у розных краінах "Усходняга партнёрства". Сёлета гаспадаром сустрэчы стане Мінск.

Як стала вядома "Народнай Волі", з дакладам на сустрэчы выступіць нацыянальны каардынатар Форуму грамадзянскай супольнасці "Усходняга партнёрства" Андрэй Ягораў.

*– Я буду выступаць ад імя Форуму грамадзянскай супольнасці, у прынцыпе, ад усіх грамадзянскіх супольнасцяў шасці краін "Усходняга партнёрства". Не толькі беларускія пытанні будуць закранацца. Асноўная праблема – гэта геапалітычны канфлікт і супрацьстаянне паміж дзвюма інтэграцыйнымі ініцыятывамі – еўразійскай і еўрапейскай,* – сказаў Андрэй Ягораў.

Арганізатарам нефармальнага саміту міністраў замежных спраў "Усходняга партнёрства" з'яўляецца Еўрапейская служба знешніх дзеянняў і Еўрапейская камісія.

## Хто ў чарговы раз будзе арганізоўваць і праводзіць выбары прэзідэнта Беларусі...

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

*"ЦВК, і толькі яна, будзе займацца арганізацыяй і правядзеннем выбарчай кампаніі. Усе астатнія, і я ў тым ліку, будуць удзельнічаць настолькі, наколькі гэтага запатрабуе Цэнтральная выбарчая камісія".*

***

Такім чынам, галоўнай па выбарах зноў будзе Лідзія Ярмошына. Нагадаем, што гэта за персанаж.

***

*Лідзія ЯРМОШЫНА – пра сябе:*



*"Я нарадзілася, вырасла і пражыла большую частку жыцця ў СССР. Таму я даражу гэтай часткай свайго жыцця. Мой бацька – савецкі афіцэр, украінец па нацыянальнасці. Мая маці – руская".*

***

Лідзія Ярмошына ўзначаліла Цэнтрвыбаркам падчас рэферэндуму 1996 года. І хаця на той момант, паводле беларускага заканадаўства, кіраўніка ЦВК павінен быў прызначаць парламент (і дэпутаты прызначылі на гэтую пасаду Віктара Ганчара), Аляксандр Лукашэнка выдаў свой указ. У выніку Ганчара з Цэнтрвыбаркама гвалтам выкінулі, а Лідзію Ярмошыну пасадзілі ў крэсла. З таго часу вынікі ніводнай кампаніі волевыяўлення беларускага народа – ні выбары прэзідэнта, ні выбары парламента, ні вынікі рэферэндумаў – не былі прызнаны цывілізаванай міжнароднай супольнасцю. Вердыкт міжнародных назіральнікаў (акрамя прадстаўнікоў краін СНД) наконт работы Лідзіі Ярмошынай быў заўсёды катэгарычны: выбары не з'яўляліся справядлівымі, празрыстымі, праходзілі недэмакратычна, таму лічыць іх легітымнымі нельга.

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Гульня на нервах

*Беларуская баскетбалістка перарэзала б сабе вены, калі б каманда не патрапіла ў паўфінал чэмпіянату Еўропы.*



Чвэрцьфінальны паядынак еўрапейскага першынства, у якім сустракаліся зборныя Беларусі і Літвы, трэба было глядзець з валідолам.

Беларускі, якія па ходзе матча выйгравалі аж 19 ачкоў, на фінішы маглі і прайграць. За паўтары секунды да заканчэння гульні наша каманда выйгравала два ачкі, але **Кацярына Сныціна** зрабіла прыкрую памылку, і ў літовак быў шанц зраўняць лік, а ў дадатковы час, магчыма, і выйграць. На шчасце, усё для нас закончылася добра. Вытрымалі.

*"Аб чым думалі на апошніх секундах? Мы адразу на пляцоўцы пахавалі б Кацю,* – жартам сказала пасля гульні баскетбалістка беларускай зборнай **Анастасія Верамеенка**. – *Яна сказала, што сама перарэзала б сабе вены. І я яе разумею. Мы былі ў секундзе ад таго, каб патрапіць на алімпійскі кваліфікацыйны турнір. Напэўна, чалавека пераклініла ў стрэсавай сітуацыі. У той момант у яе былі нейкія шалёныя вочы, і яна запусціла мяч куды падалей... Добра, што ўсё абышлося!"*

Такім чынам, жаночая зборная Беларусі выйшла ў паўфінал чэмпіянату Еўропы і тым самым гарантавала сабе месца ў алімпійскім кваліфікацыйным турніры. А сёння за выхад у фінал беларускі будуць сапернічаць са зборнай Сербіі.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПО ПОВОДУ



*Мария ЭЙСМОНТ*

## Майдан или обычный протест: что происходит в Армении?

Кадры из Еревана, на которых демонстрант, поднятый в воздух струей водомета, со всей силы грохается об асфальт рядом с уже лежащими людьми, облетели в эти дни все мировые СМИ.

В столице Армении полиция жестко разогнала протестующих против повышения тарифов на электроэнергию. Мирных демонстрантов, не согласных с решением властей, «усмиряли» дубинками, водометами, избивали журналистов, конфисковывали и целенаправленно ломали фото- и видеокамеры. В больницах оказались 14 человек, 237 были задержаны.

Но людей это не остановило. Наоборот, на следующий день на улицу вышли десятки тысяч демонстрантов, акции перекинулись в другие города страны. Сидячая забастовка, с которой начинались массовые недовольства, переросла в многотысячный протест. И уже кто-то начинает сравнивать армянские протесты с Майданом, ищет аналогии с украинской революцией, а в России, как водится, заговорили, что за событиями в Ереване стоят США...

Может ли так случиться, что под напором масс руководство страны даст обратный ход избранному курсу «дружить с Россией», ведь подобные кульбиты Армения уже проделывала? В 2009 году Армения взяла курс на сближение с Европой, а в 2013-м начатые программы свернула, решив, что ей по пути с Россией.

...В октябре 2013 года у меня случилась командировка в Ереван. Именно той осенью Армения находилась в сложной ситуации, решала, каким идти курсом: дальше интегрироваться в Европу или сближаться с Россией, которая, теряя Украину, с невероятной энергией бросилась «спасать» Армению от европейского влияния, заманивая выгодными предложениями – дешевым газом, гарантиями военной безопасности и т.д. Дело в том, что с 2009 года Армения, Азербайджан, Беларусь, Грузия, Молдова и Украина были включены в программу «Восточное партнерство», инициированную ЕС. Но в отличие от нашей страны идеи сближения Армении с Европой, ориентации на европейские стандарты и ценности активно поддерживались не только населением страны, но и, что важно, правительством и президентом. Армения кардинально менялась просто на глазах.

Вот только один пример.

В 2008 году вступление в должность президента Сержа Саргсяна сопровождалось жестоким подавлением акции протеста, когда в результате столкновений митингующих с полицией погибли десять человек, сотни были арестованы, наиболее активные оппозиционеры брошены за решетку. А в 2009 году в Армении действовали уже другие законы. Из тюрем были выпущены практически все политзаключенные, восстановлено право на свободу собраний. В стране опять стало возможным проводить митинги, не боясь их жесткого подавления. Когда я приехала в Армению, мне рассказывали об акциях протеста, которые прошли в июле 2013 года. В Ереване тогда подорожал проезд в общественном транспорте, стоимость одной поездки увеличилась на половину. Население эту новость восприняло в штыки, начались протестные выступления, и мэрия города была вынуждена вернуть прежние тарифы на проезд. При этом никто не был задержан, оштрафован и т.д. и т.п.

В ноябре 2013 года Армения должна была подписать Ассоциативное соглашение с Евросоюзом, и это означало, что сближение страны с Европой выходит на новый уровень. Но... В сентябре президент Серж Саргсян посетил Москву. Официальный визит длился только один день, не известно, что обещал армянскому президенту Владимир Путин, но вместо подписания Ассоциативного соглашения с Евросоюзом Армения заявила о вступлении в Таможенный союз. Потом последовало членство в Евразийском экономическом союзе. Этот судьбоносный для Армении договор был подписан в Минске на заседании Высшего Евразийского экономического совета в конце прошлого года.

Армения, безусловно, рассчитывала получить от России дешевый газ, иные выгоды. Но пока дивиденды подсчитывает Россия, у которой монополия на транспортировку и поставки газа в Армению, по сути, Россия владеет электрическими сетями Армении. Рядовые армяне жить лучше не стали. Зарплаты как были 250 долларов, так и остались, а цены постоянно растут. Армяне и раньше возмущались такой политикой государства, но последней каплей стало сообщение о подорожании электроэнергии, потому что платить за свет по европейским тарифам – значит отдавать существенную часть армянской зарплаты. Народ боится, что это приведет к удорожанию товаров и услуг. И это при том, что электроэнергию страна вырабатывает на собственной атомной электростанции и нескольких мощных ГЭС.

В эти дни тысячи людей отстаивают свои права на улицах Еревана. Им противостоят полицейские дубинки и водометы. Заявления властей о том, что тарифы на электроэнергию повышаться не будут, не звучат. Получается, политика «российского влияния» привела к тому, что и уровень жизни в Армении не вырос, и свобод в стране не осталось?

Я позвонила в Ереван знакомым журналистам, политологам, чтобы получить, как говорится, информацию из первых рук.

*«То, что 99 процентов населения поддерживает митингующих, – это факт. И то, что это только начало протестов, тоже для всех очевидно»,* – сказал мне известный в стране блогер, президент клуба знатоков Армении Тигран Кочарян. Его не заподозришь ни в симпатиях к Европе, ни в симпатиях к России. Он всегда старается быть объективным в своих оценках. «*Но я не стал бы говорить, что это новый Майдан,* – продолжил Тигран. – *Потому что пока не стоит вопрос об отставке президента Саргсяна, ухода из-под влияния России. Стоит вопрос перед правительством Армении защищать интересы Армении. Правительство и президент должны проявлять волю, а не подчиняться интересам российских компаний. Но если российская сторона будет вести себя неадекватно и попытается все списать на организованный Западом Майдан, то антироссийские настроения появятся. Митингующие уже скандируют: «Мы – хозяева страны», «Свободная Армения». И это может быть путь к Майдану».*

